© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

*Жыве Беларусь! Жыве вечна!*

# Голас Камбатанта

ГАЗЭТА ВЕТЭРАНАЎ БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА РУХУ

N 2,
ліпень 2000 г.
Адрас для карэспандэнцыі:
231800 Гродзенская вобл.,
г. Слонім-9, а\с 3.
Рэдактар Сяргей ЁРШ

***Кароткія навіны***

## Міжнародны кангрэс

**У чэрвені ў Вільні прайшоў Міжнародны кангрэс па ацэнцы злачынстваў камунізму.**

На гэты форум зьехаліся прадстаўнікі 20 краінаў, а сярод іх і Беларусі (Зянон Пазьняк, Сямён Шарэцкі, Радзім Гарэцкі, Ігар Кузьняцоў). У сваіх выступленьнях дэлегаты падкрэсьлівалі, што кангрэс мусіць стаць "грамадзкім Нюрнбэргам для камунізму".

## Усебеларускі зьезд

**29 ліпеня ў Менску павінен прайсьці Усебеларускі зьезд (кангрэс), на якім будзе прыняты Акт Незалежнасьці.**

"Сёньня незалежнасьць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад пагрозу, — гаворыцца ў праекце гэтага дакумэнта. — Незалежнасьць — гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Мы, дэлегаты Усебеларускага Зьезду, сьведчым Богам дадзенае права мець сваю незалежную дзяржаву. Абвяшчаем дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасьцю беларускага народа. Прызнаём не маючымі законнай сілы любыя пагадненьні і рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне суверэнітэту Беларусі...".

**Адам Пушча**

*У 1945 годзе ў Францыі бязсьледна зьнік беларускі палітычны дзеяч, сябра ЦК БНП 32-гадовы Рыгор Зыбайла. Існуюць дзьве вэрсіі на конт ягонага лёсу. Па адной зь іх, Зыбайла загінуў у контрразьведцы польскай арміі Андэрса ў Марсэлі, а па іншай — ён пасьля вайны нібыта працаваў у сакрэтнай школе, якая рыхтавала людзей, якія перакідваліся на Беларусь. Быў выкрадзены чэкістамі і дастаўлены ў СССР, атрымаў 25 год канцлягераў... З ЗША надыйшоў у рэдакцыю ліст вядомага беларускага дзеяча, рэдактара газэты "Царкоўны пасланец" Барыса Данілюка. Ён напісаў пра Рыгора Зыбайлу кароткі ўспамін.*



## Бог забраў яго зарана

Я не магу нашкадавацца, што Бог ня ў пору забраў ад нас гэтага чыстае душы патрыёта й выдатнае здольнасьці дзеяча...

Мне пашчасьціла папрацаваць зь ім каля году, пасьля таго, як Ермачэнка прывёз яго ў канцы 1941-га ці ў пачатку 1942-га году ў Слонім і паставіў акруговым старшынём Беларускае Самапомачы. Я тады працаваў у акруговым школьным інспэктараце, які толькі-што перайняў Юры Нямомнік, але мне хацелася быць бліжэй да кіраўніцтва беларускімі справамі й я перайшоў у Самапомач, дзе быў патрэбны чалавек, які ведаў беларускую мову.

З Зыбайлам склаліся ў мяне, можна сказаць, сяброўскія дачыненьні, але выпытаць ягоную біяграфію мне неяк ня выпала й толькі з выпадковых гутарак я даведаўся, што ён з-пад Косава, скончыў унівэрсытэт у Познані з ступеняй лясного інжынера, служыў у польскім войску, ды ў 1940-41-м гадах быў старшынём беларускага камітэту ў Белай Падляшскай.

Дзякуючы ягонай дзейлівасьці й настойлівасьці беларусізацыя мяйсцовых установаў, за выйняткам паліцыі, займела немалы посьпех ды зарганізавалася культурнае жыцьцё. Нажаль, Зыбайлавая дзейнасьць ня прыйшла даспадобы немцам і пад канец 1942-га году яны зьнялі яго са старшынства Самапомачы ды паставілі на паветавага старшыню ў Дзярэчыне, дзе ён вельмі хутка пазбыўся польскага засільля ў адміністрацыі. На Зыбайлавае мейсца старшынём Самапомачы быў выбраны /пастаўлены/ др. Янка Геніюш (Ларысін муж), што працаваў акруговым лекарам.

Як доўга Зыбайла быў у Дзярэчыне, не памятаю, але, калі пачала арганізавацца Цэнтральная Рада, ён быў накіраваны ў Глыбокае на становішча намесьніка Астроўскага. Пасьля таго я бачыўся зь ім на 2-м Кангрэсе ў Менску ды ўрэшце ў канцы 1944-га — пачатку 1945-га году на Лыхэнэрштрассэ ў Бэрліне.

У студзені 1945-га году ўсё нашае зьвербаванае войска, у тым ліку й Зыбайла, было накіраванае ў Баварыю... Пась-

працяг на бал. 3

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

*Пошта*

# Цяпер ніхто не хоча ўсё гэта ўспамінаць...

***Добры дзень!***

...Маё пакаленьне рагуляўцаў дажывае свой век. Асаблівых дасягненьняў мы не дабіліся. Жылі пад панскім гнётам, бальшавіцкім ігам, акупацыяй немцаў. Па Берыяўскаму загаду мы папоўнілі "архіпелаг ГУЛАГ", дабывалі золата, пілавалі лес, пракладвалі чыгунку сярод тайгі і тундры...

Цяпер ніхто не хоча ўсё гэта ўспамінаць. Перажылі небывалыя цяжкасьці лёсу. А цяпер, ці лёгка перажыць дзень, месяц, год?

Мне давялося дазнацца, хто вінаваты ў гібелі маіх суродзічаў у вёсцы Шаўлічы (каля Ваўкавыска). Выпадкова ў аўтобусе мне распавёў сапраўдную гісторыю сп. Ксаверы Казіміравіч Чарнец з вёскі Рагозніцы. На працягу 45 гадоў райкомаўцы мітынгавалі, казалі, што вяскоўцы вінаватыя, а не Капыловіч з в. Курылавічы, які меў загад такім чынам уцягнуць насельніцтва ў барацьбу... У польскіх архівах можа быць справа двух паліцаяў: Вацлава Кандака і Яна Чыргача, якія памагалі Капыловічу й партызанам.

Канешне, пры сучаснай уладзе сказаць, што партызаны загублялі наш народ па прыказу Сталіна, неактуальна, бо кроў нявінных ахвяр ужо забытая, а магілы парасьлі бур'янам.

Нядаўна езьдзіў я ў таёжны край Омскай вобласьці, дзе жылі перасяленцы-беларусы. Сабраў дастаткова матэрыялу для гістарычных анталогій. Калі прыеду ў Беларусь можа на Новы Год, то заеду ў Слонім.

Па дарозе ў Любчу да паэта Ул. Сіўко, спадзяюся заехаць у Шчорсы да сваякоў майго сябра Моніча, бацька якога ў 20-х гадах, будучы сябрам КПЗБ, перайшоў граніцу з БССР. Пасьля мучылі чэкісты яго ўсялякімі дагадкамі ды паслалі на катаргу ў маскоўскае мэтро. Там ён захварэў, трапіў у шпіталь, а пасьля — у Омскую вобласьць, у тайгу, дзе жылі перасяленцы з Беларусі.

Як мы жывем цяпер? Пытае не прэзыдэнт, не дэпутат і не дзяржаўны чыноўнік. Такое пытаньне задае кожны сам сабе. Адказ можа быць дваякі. Калі ўзяць пад увагу эканамічны стан краіны, то дрэнна, ніжэй сусьветнага ўзроўню, галечы!..

Быў час, калі мы жылі пад нагайкай казацкіх вялікадзяржаўных царскіх эскадронаў, якія падначальваліся Мураўёву-душагубу. Тады да сьмерці сьцёбаў салдат-казак беларускага селяніна, задаючы яму пытаньне: хто ты? Ён нездагадліва адказваў: я тутэйшы. Трэба было адказаць, што праваслаўны, не паляк, не ўніят, не беларус.

Таму шмат хто ў той час пакідаў сваю вёску, Бацькаўшчыну, выязджаў у Сібір на пасяленьне. Ім давалі дапамогу, на кожнага, хто быў у сям'і, хто толькі нарадзіўся. Давалі на жывёлу, на абсталяваньне, на пабудову.

Вёска Покроўка Знаменскага раёна (400 км ад Омска) была заселеная беларусамі ў канцы XIX стагодзьдзя. З часам беларусы пабудавалі тут царкву, млын, школу. Было 147 пабудоў, сямействаў. Жылі ў дастатку, бо былі працавітыя, не гультаі.

Калі ў Омск у 1994 годзе прыехаў прэзыдэнт Беларусі, то чамусьці не цікавіўся беларускім насельніцтвам Омскай губэрні. Там, недзе ў тайзе, калісьці пасяліліся яго аднафамільцы, магчыма, родзічы. З Магілёўшчыны тут былі: Сілкіны, Раманенка, Бабейка, Агейка. З Гомельшчыны: Касёнак, Сідоркіны, Трафімчыкі, Дзюба, Сазонаў. З Гродзенскай губэрні: Калала, Сіўко, Каляда, Кавалько, Чура, Монічы, Глебка, Макарэвічы, Петрыкевічы. Ці можна вылічыць усіх з Віцебскай і Менскай губэрні, хаця ўвесь гэты сьпісак ёсьць...

Трэба зазначыць, што пасьля рэвалюцыі ў сяле аселі, жаніліся белыя ваякі цара, якіх пасьля савецкія чэкісты ўзялі на перавыхаваньне ў месцы яшчэ больш аддаленыя ад цывілізацыі — лягеры НКВД... З часам, пасьля калектывізацыі, тое сяло стала руйнавацца. За самы малы супраціў, напрыклад, адмову аддаць нажытае калгасу, у турмы забіралі мужчын, а жанчын і дзяцей завозілі яшчэ далей у тайгу, у балоты. На пагібель...

**Яўген С.**, г. Омск (Расея)



**1943 год. Навучэнцы Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі ставяць спектакль "Кастусь Каліноўскі".** Зьлева направа: за сталом — Янка Жамойцін ("пракурор"), Барыс Мацюкевіч ("засядацель"), Філіп Давідчык ("суддзя"), Кастусь Мацюкевіч; у касцы — Мікалай Станчук-Ляўчук ("стражнік"); у цэнтры — Міхась Шунько (у ролі Кастуся Каліноўскага); Павел Турайкевіч, Захар Кавэліч ("стражнікі"); сьпінамі сядзяць — Ліла Спорык, Вольга Крака і Валя Кужэлевіч. Здымак Яўгена С.

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# Першы зьезд падпольшчыкаў і партызанаў

**У студзені ў Горадні прайшоў зьезд удзельнікаў Беларускага нацыянальнага руху 1940-50-х гадоў.**

З розных гарадоў і вёсак Беларусі прыехалі ў старажытны беларускі горад ветэраны-змагары за вольную Беларусь. Ім было пра што расказаць адзін аднаму і шматлікай моладзі. Адны зь іх былі сябрамі Саюзу Беларускай Моладзі, легальнай масавай арганізацыі, якая дзейнічала на Беларусі ў 1943-44 гг. Другія служылі ў Беларускай Краёвай Абароне, батальёне Барыса Рагулі ў Навагрудку. Трэція партызанілі або дапамагалі партызанам, уваходзячы ў падпольную сетку, пасьля 1945-га. Вайна для беларусаў у тым годзе ня скончылася, бо дзесяткі тысяч мужчынаў знаходзіліся на нелегальным становішчы, арганізоўвалі чырвоным акупантам супраціў.

Было шмат палымяных прамоваў, як моладзі з «Краю», так і ветэранаў. Усе гаварылі пра тое, што пераемнасьць пакаленьняў змагароў Беларускага вызвольнага руху адноўлена. Раней беларускія нацдэмы не зьвярталі ўвагі на гэтую праблему, ды цяпер губляюць глебу пад нагамі. А вось маладыя нацыяналісты-краёўцы пачалі з таго, што якраз спрабуюць знайсьці гэтую самую глебу, каб упэўнена й надзейна стаць на беларускай зямлі, выконваючы свае галоўныя функцыі — абарону Беларускай Нацыі ад зьнішчэньня чужынцамі.

Прысутныя ўспаміналі тых ветэранаў Беларускага вызвольнага руху, якія ўсяго некалькі месяцаў не дажылі да гарадзенскага зьезду. У жніўні 1999-га ня стала Ўладзімера Кісяля, сябры падпольнага Саюзу Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі, які дзейнічаў у Заходняй Беларусі ў 1946-49 гадах. А кіраваў гэтай вызвольнай арганізацыяй атаман Іван Раманчук, беларускі герой, патрыёт. Пра яго таксама ўспаміналі ветэраны. Раманчук, паранены ў бойцы, быў захоплены чэкістамі ў 1949 г. Пасьля сьледзтва яго прысудзілі да 25 гадоў канцлягераў і толькі ў 1970-х гадах Раманчук вярнуўся на Бацькаўшчыну. Там ён хутка загінуў пры таямнічых абставінах.

Надзея Дземідовіч, колішняя сяброўка СБМ, чытала свае вершы, поўныя патрыятызму. Мікола Канаш прачытаў невядомы верш Ларысы Геніюш. Ня ўсе ветэраны здолелі прыехаць у Горадню: многія хворыя, іншыя проста баяцца, бо вельмі ж шмат перажылі яны на сваім вяку. Але тыя, хто пабываў на зьезьдзе, не пашкадавалі. Яны адчулі, што не дарэмна ахвяравалі калісьці сваёй маладосьцю — іх помняць, любяць, шануюць. А галоўнае — ветэраны ўбачылі, што ўжо падрасла ім зьмена, якая ўжо сёньня прымае баявое хрышчэньне, змагаючыся супраць акупанта за вольную й незалежную Беларусь.

Зьезд удзельнікаў Беларускага нацыянальнага руху прайшоў бяз розных неспадзяванак. Добра папрацавалі арганізатары — «Край», гарадзенская філія фонду Сапегі, гарадзенская сацыял-дэмакратычная Грамада. Яны знайшлі сродкі, сабралі людзей, апекаваліся імі ўвесь час іх побыту ў Горадні.

Практычна, адзінай негатыўнай рэакцыяй на зьезд у беларускіх СМІ быў пашквіль «беларускага барда» і «карэспандэнта газэты «БМ» Уладзіміра Гуткоўскага ў баранавіцкай «незалежнай» газэце «Шаг» (В. Гутковский. Пока что они смотрят на нашу реакцию... // Шаг, 3-9 траўня 2000 г.). Удзельнікі й арганізатары зьезду былі зганьблены апошнімі словамі. Парадокс, але побач з гэтым пашквілем, у газэце была зьмешчана зецемка, што Гуткоўскі атрымаў ад «Беларускага рэспубліканскага культурна-асьветніцкага клуба «Спадчына» медаль «Пагоня»... Цяпер «бард», выканаўшы заданьне гаспадароў з «органаў», паехаў у Амэрыку. Напэўна, «внедряется» ў шэрагі беларускай эміграцыі.

**Іван Радзевіч**

# Бог забраў яго зарана

пачатак на бал. 1

ля капітуляцыі ў мястэчку Альтгаўзэн пазнаёміўся я зь Верай Стасуй — Зыбайлавай нарэчанай — сьвятаровай дачкою з Глыбокага, былой працаўніцай намесьніцкае канцылярыі. Дзесь у чэрвені ці ліпені яна мне паказала атрыманую праз Чырвоны Крыж паштоўку, дзе Зыбайла ў пары дазволеных сказаў паведамляў, што ён у палоне, але маецца нядрэнна. Нажаль, да Веры Стасуй унадзіўся французскі лейтэнанцік й яна зацяжарыла, ды выйшла за яго замуж, а пасьля выехала ў Францыю ці Алжыр.

Неўзабаве пасьля таго нейкім чынам да нас дайшла чутка, што Зыбайла расстраляны, але нічога пэўнага мы ня ведалі, ажно пакуль да нас у французскую зону ў пачатку 1947-га году ня прыехаў Мікола Абрамчык. Ён расказаў, што, даведаўшыся пра перадачу Зыбайла палякам, зьвярнуўся да польскага прэзыдэнта Рачкевіча, зь якім тады йшлі дыпляматычныя гутаркі БНР, каб той загадаў Зыбайлу выпусьціць. Рачкевіч гэткі загад выдаў, але ўжо было запозна, бо Зыбайла самавольна застрэліў нейкі польскі шавініст...

Я ўпэўнены, што яно гэтак і было, а ўсялякія іншыя чуткі пусьцілі людзі, што самыя Рыгора Зыбайла ня зналі й, магчыма, зблыталі яго з кім іншым.

**Барыс Данілюк**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# У Расеі памятаюць беларускіх партызанаў

**Расейскія генэралы не забываюцца пра супрацiў беларускіх партызанаў у пасьляваенны час.**

Час ад часу ў расейскай прэсе праводзяцца паралелі паміж сучаснай вайной у Ічкерыі і баявымі дзеяньнямі ў заходніх рэгіёнах СССР у першае пасьляваеннае дзесяцігодзьдзе. Напрыклад, генэрал Анатоль Кулікоў, былы кіраўнік Аб'яднанай групіроўкі фэдэральных войскаў у Ічкерыі ў інтэрвію "Маскоўскім навінам" сказаў наступнае: "Што ж датычыць партызанскага супраціўленьня /у Ічкерыі — **"ГК"**/, то яно, напэўна, на гады. Успомніце досьвед ліквідацыі нацыяналістычнага падпольля ў Заходняй Украіне, Заходняй Беларусі й Прыбалтыцы пасьля Другой сусьветнай вайны. Тады афіцыйна банды былі ліквідаваны да 1951 года, рэальна — да 1953-54-га. А там яны дзейнічалі не ў горных умовах" ("МН", N 3, 25-31.01.2000).

**Андрэй Краўцоў**

# 90-я ўгодкі з дня нараджэньня палкоўніка Івана Шанько

**Сёлета беларускія патрыёты будуць адзначаць 90-я ўгодкі з дня нараджэньня Івана Шанько (1910, Магілёў — 1943, Берасьцейшчына), галоўнага камандзіра Беларускага нацыянальнага партызанскага руху (Беларускай Народнай Партызанкі) на Палесьсі падчас Другой сусьветнай вайны.**

Будучы афіцэрам Чырвонай Арміі, у чэрвені 1941-га ён трапіў у акружэньне ў Заходняй Беларусі. З 1942 г. — камандзір беларускага партызанскага аддзелу на Пружаншчыне, а пасьля — кіраўнік беларускай нацыянальнай партызанкі на Берасьцейшчыне, Піншчыне, Гарадзеншчыне. Падчас перамоваў з савецкім «прадстаўніком» — палкоўнікам Льдовым-Ліньковым, Шанько адмовіўся падначаліць маскоўскаму кіраўніцтву свае атрады. За гэта й быў ён забіты чэкістамі.

Цэлыя дзесяцігодзьдзі пра палкоўніка Шанько згадвалі толькі на эміграцыі — ягоныя сябры па зброі, як Сяргей Хмара, Васіль Вір, атаман Якуб Харэўскі, Юрка Стасевіч, атаман Язэп Таўпека. На Беларусі пра яго таксама памяталі былыя беларускія партызаны, але баяліся ўспомніць услых... Здымак беларускага героя, а таксама кароткую біяграфічную даведку ўдалося адшукаць у адным з расейскіх вайсковых архіваў.



*Іван Шанько*

**Сяргей Ёрш**

## Рыгор КЛІМОВІЧ

(3. 10. 1924 — 1. 7. 2000)

**У Гомелі памёр ветэран Беларускага вызвольнага руху, вязень сталінскіх канцлягераў. Кіраўнік Нарыльскага паўстаньня 1953 году, аўтар гімну паўстанцаў. Паходзіў з Гомельшчыны. Аж да сьмерці знаходзіўся пад наглядам КГБ.**
**Сьветлая памяць!**

**Віктар Сікора, сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі. 12 ліпеня адзначыў сваё 75-годзьдзе. Віншуем юбіляра і зычым яму здароўя, доўгіх гадоў жыцьця ды творчых посьпехаў!**
**Рэдакцыя «ГК»**

*«Голас Камбатанта»*
**газэта ветэранаў БВР**

Дабрачынна надрукавана **Гарадзенскім абласным грамадскім аб'яднаннем «Ратуша»** пры падтрымцы **фонда «Альянс Каунтэрпарт», Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі** і **Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі** (ЗША).

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018